ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК
ЖНІВЕНЬ, 2011
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Еўрапейскія палітыкі заклікаюць вызваліць лідэра "Вясны" СТАР. 3

Затрыманне Бяляцкага - чыста палітычная справа СТАР. 4

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ЎЗЯТЫ ПАД ВАРТУ

## *Калегі: «Гэта звязана з тым, што мы аказвалі матэрыяльную падтрымку рэпрэсаваным»*



**Кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі пасля допыту ў Дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю узяты пад варту.**

Як паведаміла праваабаронца Таццяна Равяка, Бяляцкі затрыманы на трое сутак у якасці падазраванага па крымінальнай справе, заведзенай па частцы 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Беларусі (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры).
Максімальнае пакаранне па гэтым артыкуле прадугледжвае пазбаўленне волі да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Бяляцкі будзе знаходзіцца ў СІЗА на вуліцы Валадарскага, паведаміла праваабаронца.

Нагадаем, што Бяляцкага даставілі ў ДФР пасля завяршэнняператрусу ў офісе арганізацыі, што на праспекце Незалежнасці, 78а. На частку маёмасці, якая знаходзілася ў офісе, быў накладзены арышт. З кватэры Бяляцкага, дзе ператрус прайшоў раней, забраны камп'ютар. Допыт у дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю прайшоў у прысутнасці адваката Бяляцкага Дзмітрыя Лаеўскага.

Нагадаем, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі быў затрыманы 4 жніўня ў раёне плошчы Перамогі прыблізна ў 17.00. Пра сваё затрыманне ён паспеў паведаміць Таццяне Равяка. Прыкладна праз паўгадзіны жонка праваабаронцы паведаміла па тэлефоне, што яны з Алесем знаходзяцца дома, дзе пачаўся ператрус. Пасля гэтага жанчыне забаранілі размаўляць па тэлефоне.

Праваабарончы цэнтр «Вясна», які ўзначальвае Бяляцкі, дзейнічае з 1998 года. У 1999 годзе ён быў зарэгістраваны як рэспубліканскае праваабарончае грамадскае аб'яднанне. У кастрычніку 2003 года «Вясну» ліквідавалі рашэннем Вярхоўнага суда. Прычынай ліквідацыі стаў удзел членаў арганізацыі ў назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. У сакавіку 2004 года цэнтр «Вясна» быў прыняты ў склад Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека. Беларускія праваабаронцы тройчы спрабавалі зарэгістраваць арганізацыю, але беспаспяхова.

«Я думаю, гэта звязана з тым, што мы аказвалі не толькі прававую, але і матэрыяльную падтрымку ахвярам рэпрэсій. Думаю, звязана менавіта з гэтым», заявіла супрацоўніца «Вясны» Таццяна Равяка.

Алесь Бяляцкі паважаны на цэлы свет праваабаронца быў абраны віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека. Некалькі год таму Бяляцкага вылучалі на Нобэлеўскую прэмію міру. У Беларусі праваабаронцы «Вясны» аказалі дапамогу сотням, калі не тысячам рэпрэсаваных.

**БелаПАН**

## ЗАЯВА ПРАВААБАРОНЧАГА ЦЭНТРУ "ВЯСНА"

Крымінальную справу ў дачыненні да Алеся Бяляцкага мы адназначна ўспрымаем як расправу і помсту за ягоную шматгадовую праваабарончую дзейнасць, а таксама як імкненне знішчыць Праваабарончы цэнтр "Вясна" і запалохаць увесь праваабарончы рух у Беларусі.
**Патрабуем** неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага і спынення крымінальнага пераследу ў адносінах да яго. **Заяўляем** пра намер працягваць сваю працу, паколькі наша арганізацыя - гэта людзі, якія аб'ядныя верай у важнасць сваёй місіі па абароне правоў і свабод грамадзянаў Беларусі. **Выказваем** шкадаванне, што дзяржаўныя органы Літоўскай Рэспублікі стварылі спрыяльныя ўмовы для з'яўлення крымінальнай справы ў дачыненні да Алеся Бяляцкага. **Заклікаем** міжнародную супольнасць ужыць усе магчымыя сродкі палітычнага і прававога ціску на ўрад Беларусі ў мэтах вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных вязняў.
Праваабарончы цэнтр "Вясна" канстатуе, што рэпрэсіўныя дзеянні беларускіх уладаў вядуць да далейшай ізаляцыі краіны і ставяць Беларусь пад пагрозу магчымых эканамічных санкцый, віна за ўвядзенне якіх цалкам кладзецца на ўрад

**Spring96.org**



# **Лабковіч:** Пераслед звязаны з тым, што "Вясна" збірала грошы рэпрэсаваным

***Юрыст Уладзімір Лабковіч каментуе арышт лідэра праваабарончай арганізацыі "Вясна" Алеся Бяляцкага.***

**Вольга Міцкевіч, "Еўрарадыё"**

*Еўрарадыё: Што зараз адбываецца з праваабарончым цэнтрам "Вясна"? А 17-й гадзіне 4 жніўня затрымалі яе кіраўніка Алеся Бяляцкага, праходзіць ператрус у офісе і ў кватэры Бяляцкага.*

Лабковіч: "Безумоўна, мы разглядаем гэта як спробы знішчэння праваабарончай арганізацыі. Бачна, што ўлады пераходзяць апошнія рубіконы і пачынаюць ужо непасрэдна тое, пра што мы папярэджвалі раней ціск на праваабаронцаў і пераслед саміх праваабаронцаў. Гэта тое, што зараз адбываецца вакол нашай арганізацыі".

*Еўрарадыё: А ці былі нейкія перадумовы сённяшніх падзей?*

Лабковіч: "Перадумовамі гэтых падзей з'яўляецца ўся палітыка сённяшняга рэжыму, які адназначна ўзяў кірунак на рэпрэсіі і які абсалютна адназначна вырашыў грэбаваць любымі прыкметамі прыстойнасці.Тое, што гэта робіцца канкрэтна рукамі дэпартамента фінансавых расследаванняў, звязана з тым, што наша арганізацыя аказвала дапамогу, у тым ліку матэрыяльную, усім ахвярам палітычных рэпрэсій. Таму ў дачыненні да нас гэта робіцца рукамі такога ведамства, як ДФР. У нас прынята, і гэта таксама частка сённяшняй кадравай палітыкі, каб у рэпрэсіі былі запэцканыя ўсе міліцыя, КДБ, суддзі, пракуратура, настаўнікі, якія фальсыфікуюць выбары, армія, якая таксама прымала ўдзел у разгоне 19 снежня. Зараз і дэпартамент фінансавых расследаванняў. То бок усе інстытуты зараз павінны быць мабілізаваныя для працы рэпрэсіўнай машыны".

*Еўрарадыё: Значыцца ўвага звернутая менавіта на тое, што сябры арганізацыі спрабавалі фінансава дапамагчы людзям, якія цярпелі ад сістэмы?*

Лабковіч: "Так, мы збіралі грошы для таго, каб дапамагаць людзям па аплаце штрафаў. Мы расцэньваем, што гэта будзе мець крымінальныя наступствы з прыцягненнем да крымінальнай адказнасці супрацоўнікаў нашага офіса".

*Еўрарадыё: Крымінальная адказнасць упадзе толькі на кіраўніка арганізацыі?*

Лабковіч: "Я не ведаю, я ж не ўваходжу ў следчую групу, я ня ведаю, якія ў іх планы. І не гатовы тлумачыць іх матывы".

*Еўрарадыё: Адбываецца ператрус. Што там могуць знайсці? Грошы, якія збіралі для ахвяраванняў?*

Лабковіч: "Я думаю, што гэтага яны не знойдуць, але могуць знайсці любую інфармацыю, датычную нашай дзейнасці. Магчымая і канфіскацыя той тэхнікі, якую атрымаецца знайсці на офісе".

*Еўрарадыё: Ці спадзяецеся вы на тое, што Алеся Бяляцкага выпусцяць?*

Лабковіч: "Калі на ўзроўні спадзявання, то спадзяюся. Але калі гэта крымінальная адказнасць, то ў тым ліку можа быць і ўзяццё пад варту, канешне, ўлады выберуць менавіта яго.

## **Мікола Бугай:** Жалезная вытрымка Алеся Бяляцкага

"Вясна" дапамагла тысячам людзей. Штрафы рэпрэсаваным, адвакаты вязням. Нехта мусіў гэта рабіць, і гэта рабіў Бяляцкі. Але беларускае заканадаўства не дае легальнай магчымасці атрымліваць грошы для такой дзейнасці. Таму Бяляцкі, як аказваецца, выкарыстоўваў для гэтага свой прыватны рахунак.
Лукашэнкаўцы зачапіліся за гэта, выставілі супраць яго абвінавачванні ў нясплаце падаткаў у асабліва буйным памеры. Хоць ён выкарыстоўваў тыя грошы на грамадскую дзейнасць, а не на сябе Бяляцкі быў нябедным чалавекам ужо калі пачынаў праваабарончую дзейнасць у 90-я.
Лукашэнкаўскія СМІ, дарэчы, спрабавалі згуляць на людской зайздрасці. Бяляцкага ўпікалі кватэрай і будынкам у якіх працавалі праваабаронцы і якія выкарыстоўваў нацыянальны рух.
Як расказалі калегі Бяляцкага, справа цягнецца ўжо некалькі месяцаў. Улады яўна хацелі б, каб Бяляцкі застаўся за мяжой, папрасіў прытулку. Бяляцкі не паддаўся. Абвінавачванне Бяляцкаму нікога не падмане ні ў краіне, ні за межамі.
Бяляцкага вылучалі на Нобелеўскую прэмію яшчэ ў 2007-м, і арышт толькі павялічыць ягоныя шанцы. Але галоўная ўзнагарода такому веруючаму чалавеку, як Бяляцкі, удзячнасць тых тысяч людзей, якім вясноўцы дапамаглі.

## **Жанна Літвіна:** Бяляцкі бясстрашны і прынцыповы чалавек

"Тое, што праваабаронцы, сьледам з палітыкамі і журналістамі, сёньня апынуліся ў эпіцэнтры рэпрэсій, выглядае абсалютна лягічным. Менавіта яны ўзялі на сябе клопат пра сотні беларускіх палітрэпрэсаваных і іх сваякоў, не даўшы людзям застацца сам-насам зь бядой, разгубленасьцю, бездапаможнасьцю…
Гэта самаахвярная праца, якая вымагае высокага прафэсіяналізму, і нашы праваабаронцы выдатна з ёй спраўляюцца.
Праваабарончы цэнтар „Вясна“ гэта арганізацыя, якую добра ведаюць ва ўсім сьвеце. З 2004 года яна ўваходзіць у Міжнародную Фэдэрацыю Правоў Чалавека, а кіраўнік „Вясны“ Алесь Бяляцкі зьяўляецца віцэ-прэзыдэнтам МФПЧ.
Алесь бясстрашны і прынцыповы чалавек. Ні ён, ні яго калегі ніколі не баяліся публічна адстойваць свае перакананьні, за што не раз былі прыцягнутыя да адказнасьці.
Гэтыя адкрытасьць і цьвёрдасьць даюць надзею, што Алесь дастойна справіцца і з гэтым чарговым выпрабаваньнем. Мы заклікаем улады неадкладна вызваліць Алеся Бяляцкага і спыніць перасьлед беларускіх праваабаронцаў.
Сёньня ўся праваабарончая супольнасьць павінна кансалідавацца вакол гэтых патрабаваньняў", - цытуе прэсавая служба БАЖ Жанну Літвіну.

# ЕЎРАПЕЙСКІЯ ПАЛІТЫКІ ЗАКЛІКАЮЦЬ ВЫЗВАЛІЦЬ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

"Польшча рашуча асуджае затрыманне кіраўніка Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага, якога абвінавацілі ва ўтойванні прыбыткаў у буйных памерах, за што прадугледжана пакаранне да 7 гадоў зняволення" - чытаем ў адмысловай заяве міністэрства замежных спраў Польшчы. Прэсавы сакратар міністэрства **Марцін Басацкі** адзначае, што Польшча, якая старшынствуе зараз ў Еўразвязе, пільна сочыць за падзеямі і патрабуе неадкладнага вызвалення праваабаронцы.

- Польшча рашуча асуджае затрыманне Алеся Бяляцкага ўладамі Беларусі. Крытыкуем затрыманне старшыні цэнтра правоў чалавека "Вясна" беларускай фінансавай міліцыяй па абвінавачанню "укрыванне фінансавых даходаў у буйных памерах", яму пагражае да 7 год турмы. Алесь Бяляцкі заангажаваны ў дзейнасці па дэмакратызацыі Беларусі. У чэрвені ў Вроцлаве яму была ўручана "Узнагарода Свободы".

**Сарыюш Вольскі**, дэпутат Еўрапрламента: "Пытанне ў тым, у якой сітуацыі будзе надалей Алесь Бяляцкі, і калі Еўрапарламент адновіць працу, бо мы аднаўляем працу толькі напрыканцы жніўня. Таму толькі тады гэта справа патрапіць у падкамісію па правах чалавека да дэлегацыі па правах чалавека ў Беларусі.
Калі ён будзе затрыманы на больш працяглы тэрмін, наколькі я ведаю яго затрымалі на тры дні, то ён будзе пад маніторынгам групы парламента. Калі справа будзе працягнута, то, як гэта і было раней, яго імя патрапіць у спіс асобаў, справы якіх знаходзяцца пільным кантролем Еўрапарламента.








## *Старшыня Еўрапарламента заклікаў беларускія ўлады вызваліць Алеся Бяляцкага*

## ЗША занепакоеныя арыштам Бяляцкага

Як гаворыцца ў камэнтары амбасады ЗША ў Беларусі, "затрыманьне кіраўніка праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага выклікае велізарную занепакоенасьць і зьяўляецца яшчэ адной вартай жалю прыкметай самаізаляцыі Беларусі і яе далейшага адыходу ад эўрапейскіх нормаў і прынцыпаў".

"У дэмакратычным грамадзтве няўрадавыя арганізацыі, такія, як "Вясна" (якой улады надалей адмаўляюць у рэгістрацыі), граюць ключавую ролю ў сыстэме стрыманьняў і проціваг. Прызнаючы гэтую ролю, дзяржавы заканадаўча забясьпечваюць умовы, неабходныя для працы і квітненьня трэцяга сэктару, а не імкнуцца маргіналізаваць грамадзянскую супольнасьць, адмаўляючы ў рэгістрацыі, перасьледуючы і затрымліваючы актывістаў няўрадавых арганізацый", цытуе БелаПАН заяву амбасады ЗША ў Беларусі.

**Радыё Свабода**

*Кіраўнік еўрапескага парламента выказвае здзіўленне з прычыны новага вітка ціску на праваабарончы цэнтр "Вясна" і асабіста на кіраўніка цэнтра Алеся Бяляцкага.* ***Ежы Бузэк*** *заклікаў беларускія ўлады вызваліць праваабаронцу, а разам з ім і іншых палітычных вязняў, паведамляе Польскае прэсавае агенцтва.*

*Нагадаем, што Алеся Бяляцкага затрымалі ўчора вечарам. Правёўшы ператрусы ў офісе "Вясны", у кватэры Бяляцкага і ў яго на дачы, міліцыянты забралі праваабаронцу ў пастарунак. Мяркуецца, што яго абвінавацяць ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. За гэта Бяляцкаму можа пагражаць да сямі гадоў турмы.*



## Урад ФРГ патрабуе хуткага вызвалення

Германскі ўрад «рэзка асуджае прымяненне крымінальнага заканадаўства для таго, каб па палітычных прычынах прымусіць маўчаць яшчэ аднаго актыўнага прадстаўніка беларускай грамадзянскай супольнасці». «Федэральны ўрад патрабуе спынення ўсіх рэпрэсій у дачыненні да апазіцыйных няўрадавых арганізацый і іх актывістаў. І ён паўтарае сваё патрабаванне аб вызваленні ўсіх палітзняволеных у Беларусі».
Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі быў затрыманы 4 жніўня ў Мінску супрацоўнікамі дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК у якасці падазронага па справе, распачатай на падставе часткі 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса. Максімальнае пакаранне па артыкуле - пазбаўленне волі на сем гадоў.

**Наша Ніва**



# **Някляеў:** улады спадзяюцца зрушыць зь мёртвай кропкі гандаль палітвязьнямі

*Экс-кандыдат у прэзыдэнты, лідэр кампаніі "Гавары праўду" Ўладзімер Някляеў лічыць: арыштоўваючы вядомага праваабаронца Алеся Бяляцкага, улады спадзяюцца "зрушыць зь мёртвай кропкі гандаль палітвязьнямі".*

"Улада бачыць нязломнасьць палітвязьняў, іх сваякоў. За гэты час што ёсьць, можа найбольшым дасягненьнем Плошчы і таго, што адбывалася пасьля яе, ніхто не папрасіўся ў гэтай улады, ня стаў на калені. Усе стаяць мужна, цьвёрда, патрабуючы аднаго зьменаў палітычнага рэжыму на Беларусі. Як падламаць гэтых людзей? Пазбавіць іх дапамогі. Людзі баяцца найперш за сваіх родных і блізкіх, а потым ужо за сябе. Гэта першая мэта.

Але праз яе дасягаецца мэта больш істотная, дзеля чаго гэта і робіцца. Трэба зрушыць зь мёртвай кропкі гандаль палітвязьнямі. Вось чакалі, што за іх будуць грошы. У шмат разоў больш, чым за Казуліна, бо іх у шмат разоў больш цяпер сядзіць у турмах. Грошай няма, значыць, трэба да гэтага зрабіць нейкі крок. Які? Ну вось, давайце арыштуем лідэра той арганізацыі, якая найбольш зрабіла дзеля дапамогі палітвязьням, і пакажам, што тут, маўляў, няма ніякай палітыкі".

Уладзімер Някляеў заклікаў усіх дапамагчы "Вясьне", якая дапамагала ўсім, бо "інакш мы будзем жыць ва ўмовах доўгай такой, як палярная зімы".

**Радыё Свабода**

# **ЛЯБЕДЗЬКА:** "ЗАТРЫМАНЬНЕ БЯЛЯЦКАГА — ЧЫСТА ПАЛІТЫЧНАЯ СПРАВА"

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька адзначыў: "Вясна" - як костка ў горле для ўладаў. Бо яна дапамагае людзям, якія супраць гэтай улады і якія цярпяць ад гэтага рэжыму. Я думаю, што ёсьць спакуса зрабіць такую паказальную справу, магчыма, нават з паказальным судовым працэсам. Гэта ж паўсядзённая практыка ў Беларусі - рабіць такія працэсы. Праваабарончы рух у Беларусі ёсьць, гэта рэальнасьць. І гэта праблема для ўлады. Таму трэба стварыць, як мінімум, нейкі калідор, па якім праваабаронцы хадзілі б, не выходзячы за яго".

Лябедзька падкрэслівае, што "Вясна" вядомая ня толькі ў Беларусі. Яна робіць маніторынг сытуацыі ў краіне, і яе высновы кладуцца ў аснову заяваў розных міжнародных арганізацый. І на гэтым грунтуюцца дзеяньні адносна афіцыйнага Менску.

**Spring96.org**



Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.